# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 2 (257) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 14 СТУДЗЕНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## КРЫНІЦЫ даходу

Для асноўнай часткі сялян падставовай крыніцай даходу з'яўляецца толькі і выключна іх гаспадарка. Колькі хлебароб выцісне з зямлі, якую давозіцца яму апрацоўваць, толькі і мае. Аднак з гэтай самай зямлі можна атрымаць розны даход.

Адным са спосабаў павышэння дахадовасці сельскай гаспадаркі з'яўляецца шырокае вырошчванне прамысловых культур. Найбольш вядомай на Беласточчыне прамысловай культурай з'яўляецца цукровы бурак. У час асенняй кампаніі былі, напрыклад, такія дні, што скупачны пункт у Бельску Падляшскім прыймаў па 100 тон цукровых буракоў. У наваколлі Бельска найбольш плантатараў гэтай карыснай сельскай культуры знаходзіцца ў вёсках: Арэхавічы, Кнарыды, Кнаразы, Райск і Плюцічы.

Міхась Грыгарук з вёскі Плюцічы ў Бельскім павеце мае ледзь 2 гектары ворнай зямлі, але з гэтых двух гектараў змог ён выдзеліць 12 араў пад плантацыю буракоў. З гэтых 12 араў сабраў ён 45 цэнтнераў буракоў. Пералічыўшы, мы атрымаем: калі б Грыгарук засадзіў бbuракамі цэлы гектар, то сабраў бы ён 375 цэнтнераў. Угаджай на славу! Шкада толькі, што плантацыя так малая. Зрэшты, ён сам гэта разумее.

— Гаспадарка мая малая і я пабаяўся больш зямлі выдзеліць пад буракі, — кажа Грыгарук. — Зараз пераканаўся, што зрабіў дрэнна. На гэты год пад буракі адвяду каля паўгектара.

Сярод сялян на Беласточчыне шырока распаўсюджаны меркаванні, што цукровыя буракі добра растуць толькі на цяжкай, высакавартаснай глебе III-га класа, і таму шмат хлебаробаў усё яшчэ вельмі скептычна адносіцца да гэтай карыснай расліны. Зразумела, бурак на лятучым пяску расці не будзе, але гэтыя меркаванні найчасцей абаснаваныя на ненайлепшай традыцыі, на недахопе адпаведных агратэхнічных ведаў. Прыкладам, добра ілюструючы гэтыя сцвярджэнні паслужыць можа вопыт

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАВЕЖА І АРЭШКАВА ПЕРШЫЯ НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Насельніцтва грамадскіх рад у Белавежы і Арэшкаве ў палове снежня мінулага года поўнасцю рэалізавала гадавы план збору на Грамадскі фонд пабудовы школ. Варта адзначыць заслугу ў гэтым працаўнікоў прэзідыумаў ГРН у Белавежы і Арэшкаве, якія патрапілі высніць сялянам, як важнай справай у нашай краіне з'яўляецца рэалізацыя планаў СФБШ.

Нельга гэтага сказаць аб грамадскай радзе ў Новаберазове, якая гадавы план выканала ўсяго толькі ў 12% (а яна ж найбагацейшая ў павеце) і Нараўцы, дзе гадавы план выканана толькі ў 11%. Каб на Гайнаўшчыне было больш такіх грамад як Белавежа і Арэшкава, дык і Гайнаўка выйшла б на адно з першых месц у рэалізацыі плана збораў на СФБШ. (вб)




У сувязі са святкаваннем 20 гадавіны ППР, у Беластоку, як мы ўжо паведамлялі, у выставачнай зале Дома прафсаюзаў адкрылася выстаўка, прысвечаная гэтай знамянальнай даце. На здымку: ля стэнда са здымкамі членаў партыі, якія аддалі жыццё за народную ўладу.
Фота З. Зарэмба

## КАБ ТАК УСЮДЫ ЯК У СТРАШАВЕ

Людзей збіралася ўсё больш і больш. Прышлі сюды вучні з настаўнікамі з Грыбоўцаў і Страшава, прыехаў старшыня Прэзідыум ГРН у Гарадку Аляксандр Дзярманскі. Да вушэй даносіцца рокат набліжаючагася цягніка. І вось у гэты час людзі становяцца на рэйках, махаюць рукамі. А што будзе, калі не затрымаецца цягнік? — хваляваліся. Але цягнік затрымаўся. У чым справа? Што сталася? Занепакоіла гэта дырэктара Ольштынскай акругі чыгуначных дарог, які сёння прыязджаў на інспекцыю ў Крынкі. Ён у акружэнні чыгуначных улад з Беластока выходзіць з цягніка. З натоўпу людзей, якія тут сабраліся, набліжаюцца жанчыны з букетамі кветак, хлебам і соллю вітаюць дырэктара. Спачатку гаворыць Аляксандр Дзярманскі, а потым Валянціна Клепач. Гавораць яны аб неабходнасці ў Страшаве ў гэтым месцы зрабіць чыгуначны прыпынак. Як жа ж моцна аблегчыў бы ён жыццё даязджаючым да працы і школы ў Беласток людзям з вёскі Страшава, Белявіч, Грыбоўцаў.

Пачаткова дырэктар з Ольштына нездаволены тым, што людзі затрымалі цягнік, аднак уважліва слухае просьбы прадстаўнікоў страшаўскіх спраў. Выслухаўшы ўсіх, ён у кароткім сваім выступленні абнадзеіў сабраўшыхся.

— Калі вёскі грамадскім чынам пачнуць будаваць, я пастараюся вам дапамагчы, — запэўніў дырэктар і, развітаўшыся, увайшоў у цягнік. Паравоз свіснуў, і клубкі дыму панесліся над чыгункай.

Задаволены натоўп людзей пачаў разыходзіцца. Паплылі розныя гутаркі, меркаванні. Ва ўсіх было шчырае жаданне хаця б ад заўтра выйсці да грамадскага чыну, да працы над пабудовай чыгуначнага прыпынку.

Асабліва задаволены былі арганізатары затрымкі цягніка. Яны даведаліся ад чыгуначнікаў, у які дзень, і а якой гадзіне будзе ехаць ольштын-

(Працяг на стар.5)

САРДЭЧНА ДЗЯКУЕМ УСІМ АРГАНІЗАЦЫЯМ, УСТАНОВАМ і АСОБАМ, ЯКІЯ З ВЫПАДКУ НОВАГА ГОДА ПРЫСЛАЛІ НАМ ВІНШАВАННІ.

ГП БГКТ І РЭДАКЦЫЯ «НІВЫ»



* * *

Шмат спраў стаіць на кожным пасяджэнні Прэзідыум ГП БГКТ. У адным толькі 1961 годзе было іх 117. Кожная з разгледжаных спраў патрабуе асобнага падыходу. Бо тут і справы культуры, і гаспадарчыя, і персанальныя, і шмат іншых. Адно іх аб'ядноўвае — яны складаюцца на тое ці іншае функцыянаванне грамадскага арганізма, якім з'яўляецца Таварыства. Значыць, кожная справа патрабуе ўніклівага падыходу да яе. На здымку мы бачым адно з такіх рабочых пасяджэнняў Прэзідыума ГП БГКТ. Сядзяць (злева направа) Васіль Дзун, Уладзімір Станкевіч, Лідзія Бялецкая (старшыня), Георгі Валкавыцкі (намеснік) і Уладзімір Юзвюк (сакратар).

* * *

# РЭАЛІЗМ пана ГЕЙЦКЕЛЯ

Мы ўжо не першы раз адзначаем, што большасць цвяроза думаючых брытанскіх палітыкаў зусім не спяшаецца падтрымоўваць канцэпцыю заходнегерманскай замежнай палітыкі. Кіраўнікі палітычнага жыцця Вялікабрытаніі бачаць у вайсковай і эканамічнай магутнасці ГФР грозную небяспеку для сваёй дзяржавы, калі не сёння, дык прынамсі ў бліжэйшай будучыні. Заходняя Германія з узрастаючай энергіяй выпіхвае Англію з яе перадавых пазіцый у НАТО, а таксама на міжнародных рынках. Нічога тады дзіўнага, што брытанцы ставяць перад сабою запытанне: — Што б сталася, калі б Германія дабілася аб'яднання на аснове прынцыпаў, аб якіх марыць Адэнауэр?

Бачачы сваю будучыню ў найбольш чорных колерах, брытанцы фармулююць планы, якія б маглі абмежаваць тэмпы ўзросту заходнегерманскай магутнасці. Нядаўна з такім планам выступіў кіраўнік брытанскай апазіцыі, Гейцкель, прадстаўнік Партыі працы, які ў час свайго прабывання ў Заходнім Берліне выступаў з радам прамоў. Яны пасля падвяргаліся вострай крытыцы з боку бонскіх кіруючых колаў.

Аб чым гаварыў Гейцкель?

Па-першае, кіраўнік Партыі працы выступіў як староннік міжнароднага кантролю ўсіх дарог, вядучых у Заходні Берлін. Прадстаўнікі ГДР — паводле Гейцкеля — павінны з'яўляцца членамі камісіі, кантралюючай увесь рух паміж Заходнім Берлінам і знешнім светам. Зразумела, што выступаючы за ўдзел прадстаўнікоў ГДР у міжнародных органах, Гейцкель мусіў запрапанаваць «прызнанне ў пэўнай ступені ўрада ГДР». З гэтымі прапановамі Гейцкеля згодна значная большасць насельніцтва Вялікабрытаніі.

Па-другое, брытанскі палітык, адказваючы на пытанне адносна яго поглядаў на свой стары план змяншэння ўзбраенняў у Заходняй Еўропе адзначыў даслоўна: — Частка гэтых прапаноў з'яўляецца і надалей актуальнай.

Гейцкель выказваў сваё нездавальненне ў сувязі з адхіленнем плана Рапацкага, які згодна з меркаваннем брытанскага палітыка ў многім супадаў з яго планам. Хаця ў сваім выступленні Гейцкель нічога не сказаў аб кроках, якія павінны быць ужо зараз зроблены ў напрамку раззбраення, аднак тым не менш і гэтыя агульныя сцвярджэнні трэба лічыць рэалістычнымі і спрыяючымі разрадцы міжнароднага напружання ў гэтай частцы Еўропы.

Вось і таму думкі кіраўніка брытанскай апазіцыі сустрэліся з вострай крытыкай бонскіх палітыкаў. Перш за ўсё супроць Гейцкеля выступіў былы міністр замежных спраў урада ГФР, а зараз старшыня парламентарнай групы ЦДУ (ЦСУ) фон Брэнтана. Ацэньваючы прапановы Гейцкеля, ён сказаў: — Для ГФР і яе саюзнікаў нельга ісці па гэтай дарозе.

Услед за фон Брэнтана загаманілі заходнегерманскія газеты. Адна з іх вось як напісала: — Усё гэта, што Гейцкелю выдаецца палітычным рэалізмам, з'яўляецца нічым іншым, як аслабленнем пазіцый Захаду ў Берліне.

Як бачым, нічога не змянілася ў ацэнцы рэалістычных выступленняў заходніх палітыкаў бонскім урадам і яго палітычнымі органамі. Аднак на шчасце штораз больш палітыкаў сярод афіцыяльных партнёраў ГФР мае свой уласны пункт гледжання і сапраўдную небяспеку для міру пачынае бачыць, менавіта, у заходнегерманскай палітыцы.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

ВЕСТКІ з БССР

## МІНСКАМУ МЕДЫЦЫНСКАМУ-40 ГОД

Восенню 1921 года пры Беларускім дзяржаўным універсітэце быў адкрыт медыцынскі факультэт. Для выкладання на факультэце былі запрошаны вучоныя-медыкі Масквы, Ленінграда, Смаленска. А праз дзевяць год факультэт вылучыўся ў самастойны медыцынскі інстытут.

Аб гісторыі інстытута, яго выхаванцах расказваюць фатаграфіі, дыяграмы, копіі дакументаў, прадстаўленыя на арганізаванай тут выстаўцы, прысвечанай саракагоддзю з дня яго заснавання.

За час вучобы ў інстытуце студэнты маюць магчымасць праслухаць лекцыі відных вучоных — членаў - карэспандэнтаў Акадэміі навук СССР З. К. Магілеўчыка і А. Н. Філіповіча, акадэмікаў АН БССР Д. М. Голуба, В. А. Ляонава, А. Я. Пракапчука, прафесараў Б. Я. Эльберта, Т. В. Бірыч. Вялікі ўклад у навуку ўнеслі вучоныя-медыкі інстытута. Іх метады лячэння асобных захворванняў вядомы далёка за межамі нашай Радзімы. Гэта метад лячэння чырвонай валчанкі, прапанаваны прафесарам А. Я. Пракапчуком, лячэнне некаторых захворванняў вачэй кіслародам, прапанаваны прафесарам Т. В. Бірыч, пластыка штучнага стрававода, распрацаваная дацэнтам І. М. Стальмашонкам. Прафесарам Б. Б. Эльбертам сумесна з І. А. Гайскім прапанавана жывая вакцына для папярэджання ад захворвання туляэміяй.

На 40 кафедрах інстытута створаны ўсе ўмовы для плённай працы вучоных і ўсебаковага навучання маладых урачоў. Кожны пяты студэнт займаецца ў навуковым студэнцкім гуртку, набываючы навыкі вядзення навуковых даследванняў.

У апошні час у інстытут штогод паступае больш як 500 чалавек. За гады свайго існавання інстытутам падрыхтавана больш дзесяці тысяч урачоў.

«Голас Радзімы»



Доктар медыцынскіх навук, заслужаны ўрач рэспублікі, прафесар Таццяна Бірыч і кандыдат медыцынскіх навук асістэнт Эмілія Краўцова праводзяць дыяфанаскопію хворага.

## ВЫДАВЕЦКІЯ НАВІНКІ

Як паведамляе «Літаратура і Мастацтва» у Белдзяржвыдавецтве падпісана да друку трохтомная «Анталогія беларускай паэзіі». Гэтае каштоўнае выданне заслугоўвае на асаблівую ўвагу і варта, каб ужо цяпер нашыя школьныя ўлады паклапаціліся аб тым, каб забяспечыць Анталогіяй школьныя бібліятэкі.

Сярод кніг мастацкай прозы неўзабаве выйдуць у свет аповесці Лідзіі Арабей «Мера часу», апавяданні Івана Сіняўскага «Ой, рэчанька, рэчанька...», аповесць Яфіма Століна «Батальён ідзе наперад» і другое выданне аповесці Барыса Бур'яна «Першы снег».

Аматары паэзіі атрымаюць зборнік Максіма Танка «Мой хлеб надзённы».

Партызанскія запіскі былога камандзіра брыгады «За Савецкую Беларусь» (пазней імя К. Ракасоўскага) Аляксандра Раманава склалі кнігу «На зямлі непакоранай».

Падпісана да друку таксама кніга Сцяпана Майхровіча «Янка Брыль».

У перакладзе на беларускую мову выходзяць раман паўднёва-афрыканскага пісьменніка Гары Блума «Трансваальскі эпізод» і раман нямецкага пісьменніка Людвіга Рэна «Вайна без бітвы».

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

*

**1.І. пачаў самастойную гаспадарчую працу Акруговы малочны кааператыў у Гайнаўцы. Атрымаў ён сучаснае вытворчае прадпрыемства, якое можа перарабіць 30.000 літраў малака ў дзень.**

*

**2.І. у Беластоку ў Доме друку адкрылася мастацкая выстаўка Аляксандра Хомчыка. Арганізатарам выстаўкі з'яўляецца ГП БГКТ.**

*

**2.І. у Дуброве арганізаваўся Павятовы шматбранжавы кааператыў, які будзе абслугоўваць мясцовае насельніцтва ў такіх галінах як: шавецтва, кравецтва, цырульніцтва, фатаграфіка і інш. Кааператыў пераняў таксама пякарню і масарню.**

*

**4.І. ВК ССМ у кафэ Дома прафсаюзаў сарганізавала сустрэчу з вядучымі лёгкаатлетамі Польшчы, Янушам Сідлам і Збігневам Радзівановічам.**

*

**7.І. у Беластоку адбыўся турнір фехтавальшчыкаў. Першае месца заняў Пёнткоўскі (Легія). З беластачан найлепшым быў Часун, які заняў чацвёртае месца, перамагаючы, між іншым, члена зборнай Польшчы, Зуба.**

*

**10.І. у зале Ваяводскага дома культуры адбылася сустрэча з дзеячамі Польскай Рабочай партыі, арганізаваная ў сувязі з урачыстасцямі XX-годдзя ППР.**

*

**10.І. у зале Ваяводскай і гарадской бібліятэкі адбыўся канцэрт Эвы Рыбіцкай (каларатурнае сапрана) і сусветнай славы гітарыста з ГДР Роланда Зімера.**




Цалюткі дзень Налепка змагаўся з дрымотай. У хату пасыходзіліся суседзі і блізкія. Кожнаму хацелася паслухаць Яна, распытаць яго пра Расію.

Ледзь толькі сцямнела, а Яна ўжо зваліў моцны сон. Спаў ён доўга, а калі працёр вочы, сонейка ўжо залаціла карункі воблачкаў. Паснедаўшы, ён надзеў сваю старую вопратку і пайшоў у поле. На ржышчы, курылася вогнішча.

Колькі ўжо гадоў мінула з таго часу, як ён, адзіны з хлапцоў, пераскочыў праз высокае вогнішча на суседнім іржышчы. Налепка ішоў павольна, абыходзіў лужыны, а калі выйшаў на дарогу, спыніўся пад высокай абгарэлай таполяй. . Чатырнаццаць год таму назад ён хаваўся пад гэтым дрэвам з сінявокай Эвай ад маёвага ліўня. Тут ён першы раз цалаваўся з ёю, прысягаў на вернасць. Думкі роем закружыліся ў яго галаве. Цяжка было разлучыцца з гэтым месцам. А калі зрабіў ён некалькі крокаў, перад вачыма паўстаў мілы дзявочы твар — чорныя валасы, гладка зачасаныя назад, смуглявая скура, глыбокія зеленаватыя вочы, строга акрэсленыя вусны з адценнем лёгкай усмешкі і густыя, чорныя, нібы вугаль, бровы.

Таня! Што яна робіць цяпер?

У вушах Налепкі зазвінеў яе мілы смех.

— Добры дзень, Яне! — пачуў ён раптам знаёмы голас.

Да Налепкі спяшаўся малады чалавек. Налепку было шкада, што ён патрывожыў яго думкі аб Тані, і радасна, што пасля доўгай разлукі ён ізноў бачыць свайго старога школьнага сябра.

— Эда, адкуль ты?

Ён кінуўся яму насустрач, працягваючы руку, і раптам застыў на месцы: чаму ён падае яму левую руку? Толькі цяпер Налепка заўважыў, што правы рукаў Эды пусты.

— Дзівішся? — горка ўсміхнуўся хлапец. — Я інвалід, Яне. Засталася ў Крыме. Ведаеш, за Бога, за народ.

У сэрцы Налепкі ўскіпеў гнеў. І туды пагналі славакаў.

— Чым займаешся? — запытаў ён глуха.

— Дома аціраюся. — Працую ў полі. А ты як маешся, Яне?

— Нічога...

— А немцы, — загарэліся цікаўнасцю яго вочы, — доўга яшчэ будуць разбойнічаць?

Налепка махнуў рукой і працадзіў скрозь зубы:

— Ужо крывёй харкаюць. Ужо нестае духу.

— У мяне быў асколак у руцэ. Пасля яе адрэзалі. Але ведаеш, Яне, каб тут, у нас, пачалася заварушка, я б яшчэ нашым панкам паказаў, дзе ракі зімуюць.

— Каб пачалася, — уздыхнуўшы, паўтарыў Налепка і тут жа ўпэўнена дадаў: — Пачнецца, Эда, абавязкова пачнецца.

Засунуўшы рукі ў кішэні, ён глянуў на горы і пакрочыў далей. У дзяцінстве, будучы скаўтам, ён аблазіў уздоўж і ўпоперак родныя мясціны. Ён ведае кожную далінку, кожны ярок, кожную лужынку. Ён мог бы па памяці накрэсліць кожную палянку, кожны ўзгорачак, кожную прасеку. Налепка ўпершыню ў сваім жыцці глядзеў на гэтыя горы па-новаму, вачыма салдата.

*

Налепка нецярпліва разрэзаў канверт і дастаў з яго два пісьмы. Надпаручнік Лескаван пісаў яму, што прыехаў у двухтыднёвы адпачынак дадому і перасылае пісьмо Паўліка.

Налепка сеў ля акна, што выходзіла на вуліцу, і пачаў чытаць.

(Працяг на стар. 7)

75 76 77

